© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ЧАЛАВЕК ЗМЯНЯЕ ШКУРУ

Яцко Корух, як гэта кажуць у народзе, быў першым кавалерам у Сакалянах. І хоць гаспадар з яго няважны быў, але за яго гатовы былі выйсці найпрыгажэйшыя дзяўчаты. Ён прыгожа спяваў, танцаваў і галоўнае, што ўмеў вельмі міла пагаварыць. Падабалася гэта многім. Усіх «ашарашыла» ў вёсцы, калі пайшлі чуткі, што Яцко будзе жаніцца з Мар'яннаю, самай нясмелай дзяўчынай ды шмат ад яго старэйшай. Вядома, задаволена была Мар'янна. Яна ўкладвала планы жыцця на будучыню. Падабаўся Яцко таксама і бацькам Мар'янны. Стары недалюбліваў яго толькі за тое, што Яцко разам з дачкою хацеў пацягнуць як найбольш пасагу. Яны пажаніліся. Мар'янна была працавітай, гаспадарнай жанчынай, добрай жонкай, а пасля добрай маткай. Але яе сямейнае шчасце як быццам чарвяк падтачваў. Яна стала заўважаць, што муж яе не кахае. Ішлі гады, а з імі разам нарасталі сямейныя нязгоды. Прыдзірлівасць, грубасць мужа ўсё ўзрасталі. Пазней Яцко стаў падымаць нават руку на сваю жонку.

Што сталася з Яцкам? Чаму стаў ён сямейным разбойнікам? На гэтае пытанне ёсць непрыемны адказ. Яцко Корух пагнаўся на пасаг. Яму не столькі была патрэбная Мар'янна, колькі маладая прыгожая кабыла яе бацькі, а апрача таго яшчэ свінні, гумно, і іншыя рэчы, якія атрымаў ён разам з дзяўчынай.

Мар'янна мірылася з гэтым цяжкім крыўдным жыццём, як многія жанчыны на вёсках. Хвалявала яе неаднойчы тое, што яе муж перастаў цікавіцца сынам, пачаў піць гарэлку і загаварваць аб разводзе.

— Я з хаты нікуды не пайду і разводу табе не дам, — адказвала яму Мар'янна. — Я хачу з табою жыць, толькі папраўся ты, перастань піць і біць мяне. Мар'янна згодна была нават быць паніжанай, пакрыўджанай, яна нават перастала б прыпамінаць мужу аб яго зацікаўленасці іншымі жанчынамі. Паплача горка ў куточку, каб ніхто не бачыў, і далей шчыра працуе на гаспадарцы.

Чаму ёй не адыйсці ад мужа-ката? Чаму б не згадзіцца на развод? Няма куды ісці. У яе ёсць сын, які ходзіць у школу, і дзе ж яна з ім пойдзе? Гаспадарка бацькі астаецца для яе брата. Згадзіцца на развод яна не можа і таму, што само слова «разведзеная» разумеюць там людзі як нешта пагардлівае, немаральнае, адпіхаючае.

У сям'і Корухаў адна трагедыя родзіць другую. Усе сямейныя сваркі, усе авантуры адбываюцца на вачах у сына. І малому школьніку такая хатняя атмасфера не йдзе на здароўе, а толькі на шкоду.

м.х.

З ПРАКТЫКІ ЗЕМЛЯРОБА

# Цукровыя буракі

Цукровыя буракі — расліна вельмі карысная. Агульны ўраджай яе пры адпаведным угнаенні, добрай апрацоўцы зямлі і добрым доглядзе каля 400 і больш цэнтнераў з гектара. Калі мы нават толькі 200 цэнтнераў прададзім цукроўні па 61 зл. то 61 х 200 атрымліваем 12.200 зл., а апрача таго атрымліваем бясплатна дэфекацыйную вапну на ўгнаенне, выжымкі і мелясу на корм для кароў і свіней, і маем добры сілас з лісцяў. Карыстаемся ільготамі ў абавязковых дастаўках збожжа і бульбы, а таксама карыстаемся 40% скідкай за апырсківанне хімічнымі сродкамі бурачанай плантацыі. Не без значэння і той факт, што маем права атрымаць спецыяльны крэдыт на закупку машын для апрацоўкі буракоў. Але, можа, найважнейшае тое, што буракі астаўляюць глебу ў добрай структуры, якая дае высокія ўраджаі іншых раслін.

Возьмем для параўнання жыта. Збярэм яго ў сярэднім па 15 цэнтнераў (па 400 зл. за 1 ц), дык атрымаем 400х15=6.000 зл., г. зн. менш, як палавіну. Але хтось можа сказаць, што пры бураках шмат больш працы, а гэта мае вялікае значэнне ў вёсцы, дзе моладзь і найбольш працаздольныя людзі пайшлі на больш платную працу ў горад. Але ў гэтым выпадку шукаем іншых менш працахлонных спосабаў працы. Перад усім трэба аб'яднацца некалькім гаспадарам, засяваць буракі па чарзе толькі сеўнікам на адлегласці ў 45—50 см. Насенне павінна быць змешана з ячменем, салатай або грэчкай. Расліны гэтыя хутка ўзыходзяць, вызначаюць радкі і даюць магчымасць пускаць машыны для праполкі яшчэ перад усходамі буракоў. Трэба павесці працу па прынцыпу вырошчвання буракоў без ручной працы. А робіцца гэта так. Да звычайнага коннага палольніка далучаем ззаду ручны, запрагаем па магчымасці маленькага коніка, каб не таптаў радкоў і за адзін дзень смела можам апрацаваць каля двух гектараў буракоў, морквы, бручкі, агуркоў, капусты, дыняў, кукурузы ці бульбы. Дзеля гэтага трэба толькі адкінуць некаторыя часці коннага палольніка ці абсыпніка і падоўжыць драўляныя ручкі, за якія трымаемся ў час працы.

Дзіўным здаецца, што ў некаторых ваяводствах кантрактацыя буракоў праходзіць вельмі цяжка, а трэба ўзяць пад увагу, што цукровыя буракі гэта вельмі карысны корм у гаспадарцы. Статыстыка паказвае, што цукровыя буракі маюць каля 22% цукру, а гэта значыць, што гаспадар прадае цукар толькі за 3 зл., а некаторыя дзяржавы імпартуюць з Польшчы цукар за 12 зл і кормяць свіней. Ці не варта падумаць, каб і нам сеяць буракоў столькі, каб іх хапіла і для цукроўні і на корм для жывёлы?

НЕСТАР ПЕРАВОЙ

# Бібліятэка, якую любяць



Галадоўскі бібліятэкар — Надзя Гапуновіч.

Памяшканне невялікае. Усяго толькі адзін пакойчык. Але заўсёды тут прыемна і чыста. Роўныя радочкі кніжак на полках. На сталах свежыя часопісы. Актуальныя лозунгі на сценах, якія заахвочваюць да прачытання цікавай кніжкі. Гэта гаспадарства Надзі Гапуновіч. Грамадская бібліятэка ў Галадах, Бельскага павета.

— Нашая бібліятэка, — кажа Надзя, — зараз налічвае 3173 тамоў кніжак. У гэтым ліку ёсць каля 300 беларускіх.

— Хто іх чытае?

— Пераважна моладзь з сярэдніх школ і школьнікі нашай пачатковай школы. Чытаюць і старэйшыя. Напрыклад, Зося Юшчук. Сама яна па нацыянальнасці полька. Беларускую мову пазнала некалькі год таму назад, калі пачала жыць у Галадах. Пазнаўшы мову, пачала цікавіцца і беларускімі кніжкамі. Зараз найбольш захапляючай лектурай для яе — беларускія казкі.

Галадоўская бібліятэка ў сваіх 6 пунктах зараз налічвае звыш 300 пастаянных чытачоў (не ўлічваючы школьнікаў). У самых Галадах 134 чытачы, для якіх кніжка стала неабходнай у іх штодзённым жыцці.

— А якая з беларускіх кніжак карыстаецца найбольшай папулярнасцю сярод чытачоў? — пытаем.

— Найбольш пачытная кніжка ў нашай бібліятэцы, — адказвае Надзя, — гэта «Векапомныя дні» Міхася Лынькова. Пераходзіць яна з рук у рукі.

Але і беларускія часопісы карыстаюцца не меншай пачытнасцю сярод галадоўскіх сялян. Заслуга ў гэтым бібліятэкара Надзі. Па яе ініцыятыве ў бібліятэцы наладжваюцца вечары голаснага чытання беларускіх часопісаў. Надзя чытае сама і ўцягвае да гэтага моладзь з сярэдніх школ. Шмат ёй у гэтым дапамагае вучаніца 10-га класа Беларускага ліцэя ў Бельску Ніна Кудэрская. Суботнія і нядзельныя вечары голаснага чытання часопісаў увайшлі тут ужо ў традыцыі. На іх ахвотна прыходзіць моладзь і старэйшыя жыхары вёскі.

Надзя Гапуновіч закончыла карэспандэнцыйны ліцэй бібліятэкараў. Яна любіць кніжкі, любіць сваю працу. Да бібліятэкі ў Галады даходзіць з Москаўцаў. 4 кіламетры ў зімовую сцюжу па завеянай дарозе — гэта нялёгка. Але Надзя не наракае. Бо гэта адпаведны чалавек на адпаведным месцы.

(вб)



Школьнікі — пастаянныя наведвальнікі бібліятэкі.
Фота — Бельскі

## Рыбалаўскія навіны

Рыбалаўскі мастацкі гурток пад кіраўніцтвам настаўніцы Аляксандры Панасюк падрыхтаваў багатую праграму. Апрацавана п'еса В. Дуніна - Марцінкевіча «Пінская шляхта», камедыя «Прымакі» Янкі Купалы, аднаактоўка «Жыць на гэтым свеце», а таксама зроблена падборка беларускіх і рускіх песень.

Апрача выступленняў у сваёй роднай вёсцы, аматары наведалі Козлікі, Канюкі, Цялушкі, Войшкі, Сацы.

(ся)

# НАСЦІНА

(Працяг са стар. 1)

— Дзень добры, каханая. Хачу цябе прасіць, каб ты пазычыла мне сто злотых. Патрэбны да зарэзу! — пачула Насця за плячыма знаёмы голас і аж уздрыганула. На парозе стаяла Наста і весела разглядалася па хаце.

Насця памаўчала і, не зводзячы з яе ўстрывожаных вачэй, прагаварыла:

— Скажы мне шчыра, Наста, ці ты напраўду знаешся з суддзямі і пракурорамі?

— Не верыш?! — чуць не расплакалася Наста.

У гэтым месяцы Наста пачала расказваць аб тым, як дапамагла Валінаму мужу, Жэніку. — Яго засудзілі на восем месяцаў. Каб не я, сядзеў бы ён добрых дзесяць год... — Наста сціхла. Потым дадала шматзначна: — Той дыван, што ляжыць на тапчане ў нас, які табе так спадабаўся, гэта Валін падарунак...

Насці зрабілася няёмка з-за таго, што так мала дала за помач у так важнай справе і таму не ўпікнула Насты, што і яна падарыла ёй туалетку за паўтары тысячы, якую сплаціла ратамі за яе.

Увечары Наста зноў прыйшла. Дарэшты засаплася ад хуткай хадзьбы.

— Вось, пасля абеду званіла да мяне жонка суддзі і прасіла пазычыць пяцьсот злотых... І прасіла яшчэ, каб я звярнула дзвесце злотых яе доўгу пракурору... А ў мяне, як на тое, разышліся грошы...

Пачуўшы гэта, Насця цешылася паціху, што не прападае надзея зноў падыйсці ласкі ў суддзі А. Хаця знаходзіцца ён цяпер дзесьці ў Саколцы, аднак, калі схоча, закіне слоўца асэсару Ф., які пераняў Насціну судовую справу. І калі праз некалькі дзён Наста намякнула, што не пашкодзіць «падкінуць» кожнаму з іх па пяцісотцы, Насця была задаволена сабою. Задаволена была перш за ўсё таму, што правільна ўгадала сітуацыю. І з тым большым энтузіязмам забегала за пазыкамі па суседзях.

Насця не бачыла канца сваёй судовай справы, у якой адзін раз нібы прызнаюць рацыю ёй, а за другім разам — наадварот. І так праз пятнаццаць год! Насця раздругі наважылася пакончыць гэтую грызню за зямлю ды пагадзіцца з сястрою Маняю. Пэўна, пагадзілася б, каб не Наста.

— Што ты, Насценька, сваё ўступаць будзеш? Апамятайся!

Наста шторaз тлумачыць ёй, што «каб яшчэ пяцьсот злотых даць кожнаму»... Насця дае, нат' не пытае ў Шуркі дазволу. Яе вочы гараць, бы ў ліхарадцы. Думка адна: «Скупаўскі палетак — гэта мой палетак і хай Манька не лезе туды, куды не належыцца!»

Аднойчы Наста не паказалася праз два дні. Калі паказалася яна на трэці дзень, твар яе быў пануры.

— Ведаеце, чаму вы прайгралі справу? Бо Падлашчык нядобра сведчыў на вас. Во! Ён найбольшая перашкода ва ўсім... Яго трэба забіць!

Насця вытрашчыла вочы, Шурка перастаў калупаць зуб і неяк збянтэжана агляну́ўся на Насту.

— Не бойцеся! — шаптала яна далей. — Ноччу ніхто не пазнае цябе. Падлашчык старажуе на будаўляным складзе. Пойдзеш, ляснеш яму жалезам па патыліцы і канцы ў ваду.

Шурка ў адказ забалбатаў штосьці сухім языком і дрыжачымі пальцамі выгладзіў сурвэтку. Наста з'едліва зірнула на яго збялелы твар і сказала:

— Эх, ты, мужчына!..

Насці зрабілася як бы непрыемна за мужыковую слабасць і праз момант здалося ёй, што цяпер найважнейшаю перашкодаю ў справе з'яўляецца не стары Падлашчык, але яе муж, Шурка.

Наста турзанула яе за рукаў і запрапанавала:

— Хадзі, пабачым Падлашчыкаву старажоўку.

Хадзілі пару разоў. Стары жвава размаўляў з кабетамі, не прадчуваючы бяды.

Шурка ўсё трэскаў успацелымі пальцамі ды ніяк не адважваўся пайсці забіць вартаўніка. А час праходзіў. Наста перастала ўрэшце пасмейвац-



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Трыбуна чытачоў

## Супольны вечар

У нашых вёсках ёсць шмат гурткоў самадзейнасці. Яны пераважна даюць канцэрты ў сваіх вёсках. Але ёсць і такія, што выязджаюць у суседнія вёскі. Гэта мае вельмі вялікае значэнне. Моладзь развівае культуру, аматарскі рух, наладжвае сувязь з моладдзю іншых вёсак. Супольна праведзены час — гэта многа ўражанняў, задавальнення і штуршок да далейшай працы.

І так нядаўна было ў вёсцы Кленікі (Гайнаўскі пав). Тут прыехалі самадзейнікі з Плёсак (Бельскі пав.). Яны супольна з моладдзю Кленік правялі час. Некаторыя нумары выступлення асабліва прыпалі да густу жыхарам Кленік.

На пачатак выступлення гучаць словы верша Віктара Шведа «Вітаем». Многа смеху і жартаў. Людзі тут у словах Шведа бачылі сваіх суседзяў, іх памылкі і добрыя рысы. Колькі ж апладысментаў збірае Янка Іванюк за верш «Лявон-сяміжон»! А асабліва падабаўся дуэт кіраўніка гуртка настаўніцы Раісы Белах і Марысі Несцярук. Песні ў іх выкананні — гэта ціша на зале, а потым брава і брава, многа апладысментаў. П'еса «Мікітаў лапаць» была тым больш пад крытычным вокам жыхароў Кленік, бо яе паказваў ужо мясцовы гурток.

Доўга гучала музыка. Гэта кленіцкая і плёскаўская моладзь праводзіла супольны вечар.

**Аляксандр Закройшчык**
Кленікі

## Не дарога, а балота

Дарога праз вёску Кабылянка вельмі дрэнная. Зімой яна амаль была засыпана снегам і машыны не маглі праехаць. Вясною, як сыйдзе снег, дарога мае велізарныя ямы, у якіх стаіць вада.

А дарога тут вельмі патрэбная. Ёю возяць цэглу з цагельні Лесанка на станцыю Валілы. Дзеці штодзень тут ходзяць да школы. А без гумовых ботаў прайсці не можна.

Ёсць тут нават дарожнік з Гарадка, Тадэуш Банкоўскі, але ён не вельмі аб гэтым дбае.

Ёсць і пясок у вёсцы, які можна было б выкарыстаць на направу дарогі.

Вёска Кабылянка чакае на направу дарогі.

**Ірэна Амброжэй**
Кабылянка

**Ад рэдакцыі:** Чакаць доўга. А ці не лепей было б сабрацца разам усім жыхарам, навазіць на дарогу пяску і радраўняць грамадскім чынам? Арганізатарам тут мог бы быць солтыс і дарожнік.

## Сумленны прадаўшчык

У вёсцы Альхоўка (Гайнаўскі павет) прадаўшчыком з'яўляецца Язэп Янкоўскі. Трэба адзначыць, што гэта добры і сумленны прадаўшчык. Ён з вялікай адданасцю абслугоўвае сваіх пакупнікаў, заўсёды вясёлы і ветлівы. А найважнейшае, у яго заўсёды чысціня і парадак. Проста міла паглядзець, зайшоўшы ў альхоўскую краму, як умела і старанна паўкладаны тут усе тавары.

Язэп Янкоўскі дбае аб забеспячэнні сваёй крамы рознымі сялянскімі прыладамі. У яго можна купіць усё — ад іголкі да матацыкла. Вялікую таксама заслугу ўнёс у пабудову новай крамы. І вось таму менавіта цешыцца ён сярод жыхароў Альхоўкі і навакольных вёсак вялікім аўтарытэтам. Яго ўсе цэняць і паважаюць.

**Міхась Гаротны**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

Чытаючы «Трыбуну чытачоў», часта можна прачытаць пісьмы чытачоў аб пісьманосцах. Найбольш чытачы пішуць аб тым, як яны добра выконваюць свае абавязкі.

А вось я пішу да цябе аб пісьманосцы з Храбалоў С. Казлоўскім. Ён не вельмі пераймаецца сваімі абавязкамі. Прыносячы пісьмы да Райска, да адрасатаў з калёніі не заходзіць і пісьмы рэдка трапляюць. Найбольш іх носяць вучні мясцовай школы. А калі ўжо дойдуць пісьмы да адрасата, дык у такім стане, што, каб прачытаць, трэба лупу. Дарагая рэдакцыя, прашу апублікаваць гэты ліст, можа яго прачытае наш пісьманосец і прыпомніць сабе аб сваіх абавязках.

**Саша** з Райска

## Добры пачатак у Леўках

Леўкі гэта невялічкая вёсачка, якая ляжыць каля Бельска. Існуе там гурток БГКТ, а таксама гурток ЗМВ і сельскіх гаспадынь.

Моладзі ў Леўках мала, аднак патрапіла яна арганізаваць драматычны гурток. У арганізацыі гэтага гуртка дапамагае Гэнрык Гаўзе — кіраўнік школы ў Леўках.

Актуальнай праграмай драматычнага гуртка ў Леўках з'яўляюцца дзве п'есы «Хто прыйшоў уначы?..» і «Здарэнне на кірмашы», а таксама вершы і песні на беларускай і польскай мовах. Гурток гэты даў ужо 4 выступленні: 2 у Леўках, па 1 у Райках і Парцаве. 24.ІІІ.1963 г. гурток удзельнічаў у аглядзе мастацкай самадзейнасці ў Бельску. Гурток сельскіх гаспадынь у кантакце з моладдзю ўрачыста адзначыў Дзень Жанчын. У гэты дзень ставілі п'есу «Што чула бяроза?»

Пачатак добры... а далей павінна быць яшчэ лепш!!!

**Ул. Бурыла**
Леўкі

## У Дзяніскax таксама не горш

У мастацкім туртку, які існуе ў вёсцы Дзяніскі, прымае ўдзел 16 асоб. У мінулым годзе за зробленыя грошы была наладжана экскурсія ў Белавежу, а таксама ў тэатр. У гэтым годзе моладзь мяркуе наведаць Варшаву і пабываць на спектаклі сталічнага тэатра.

У праграме гуртка п'есы «Мараль Наталлі Зотавай», «Суседка» і песні. М. ін. песня «Беласточчына», напісаная В. Кардзюкевічам на словы В. Шведа.

Гурток выступаў аж тры разы ў сваёй роднай вёсцы. Затым былі ладжаны выступленні ў Плюцічах, Кнаразах, Войшках і Чароўках у Беластоцкім павеце. (ся)

## СЕЛЬГАСГУРТОК У БЕЛКАХ

Сельгасгурткі створаны з мэтай узняцця на вышэйшы ўзровень сельскагаспадарчай культуры ў дробных гаспадарках. Зараз шмат сялян разумее гэта і аб'ядноўваецца ў сельскагаспадарчую арганізацыю.

Але многія гаспадары яшчэ да гэтай пары сельгасгурток і трактар атаесамліваюць са спулдзельняй прадукцыйнай. І таму вялікая колькасць гурткоў налічвае вельмі мала членаў. Вось, напрыклад, у вёсцы Трасцянка, у якой жыве 230 сем'яў, у сельскагаспадарчым гуртку толькі 17 гаспадароў. Падобная сітуацыя і ў многіх іншых сельгасгуртках на Гайнаўшчыне.

Выключэннем з'яўляецца новаарганізаваны сельгасгурток у вёсцы Белкі, якая знаходзіцца па-суседску з Трасцянкай. Там на 50 гаспадароў 34 члены сельскагаспадарчай арганізацыі. Вядома, такі гурток мае вялікія перспектывы развіцця.

мх

## БЕЛЬСКІЯ РАЦЫЯНАЛІСТЫ

Шырокую дзейнасць разгарнуў Бельскі аддзел Таварыства атэістаў і вальнадумцаў. Налічвае яно ў Бельску 5 гурткоў (110 членаў), а дзейнасць яго заключаецца ў дакладах на розныя філасофскія тэмы, якія зачытваюць пераважна лектары з Варшавы і Беластока. У сярэдніх школах Бельска дзейнічаюць гурткі маладых рацыяналістаў, якія займаюцца цікавячымі моладзь філасофскімі праблемамі.

(п)

## КАРЫСНАЯ НАРАДА

22 лютага бягучага года ў Саколцы адбылася нарада актыву праўлення аддзела Таварыства свядомага мацярынства. На нараду прыбыло многа мужчын і жанчын, жыхароў Саколкі.

Перад нарадай лекар-гінеколаг мясцовай паветовай бальніцы Эдмунд Лявіцкі прачытаў даклад на тэму памяншэння натуральнага прыросту і паляпшэння матэрыяльных умоў сем'яў. Даклад быў праведзены ў цікавай форме і выклікаў зацікаўленне ў прысутных. У далейшым завязалася цікавая дыскусія на тэму аб свядомым мацярынстве пераважна на вёсцы, дзе гэтыя справы яшчэ не заўсёды добра выглядаюць. Быў зроблены агульны вывад: трэба больш даязджаць з лекцыямі да сельскага насельніцтва.

Пасля нарады прысутным быў задэманстраваны фільм аб шкодным уплыве алкаголю на дзяцей бацькоў-алкаголікаў, затым і фільм польскай прадукцыі «Ожэл».

**Янка Беразавец**




**Дарагое Сэрцайка!**

Мне 18 год. Жыву ў вёсцы К., скончыла пачатковую школу і вучуся на краўчыху ў сваёй вёсцы. Ужо паўтара года як я хаджу з Віцем з маёй вёскі, які мае 20 год. Віці бацькі, таксама як і мае, усё знаюць пра нас. Віціна маці вельмі палюбіла мяне і часта заклікае да сябе дахаты пагаварыць. А ў мінулыя мясніцы быў у мяне ў сватах Коля з вёскі Г. Мне Коля лепш спадабаўся за Віцю, а таксама і маім бацькам. У адну нядзелю Коля быў на вяселлі ў нашай вёсцы і цэлы вечар гуляў са мною, а нават адвёў мяне дахаты і казаў, што хоча, каб я за яго выйшла замуж. Віці характар мне не падабаецца, а ў Колі, здаецца мне, лепшы характар. Аб гэтым, што я з Колем гуляла цэлы вечар, Віця не ведаў, але калі прыехаў з другой вёскі з вяселля, то я яму ўсё расказала. Віця нічога не адказаў, але быў незадаволены.

Дарагое Сэрцайка, парай, што рабіць, ці ісці замуж за Колю ці яшчэ быць вольнай дзяўчынай.

**Лена**
**з Гайнаўскага павета**

Лена! Вельмі добра, што не спяшаешся наспех вырашаць у такой важнай жыццёвай справе, а раішся нават са мной. На маю думку, Ты яшчэ павінна быць вольнай дзяўчынай. А вось вытлумачу, чаму я займаю ў Тваёй справе такое, а не іншае становішча.

Па-першае, Ты ж маеш толькі 18 год! Замужам яшчэ нажывешся. Гэта ж так многа клопатаў, хаця б трапіўся табе найлепшы муж. А дзявочыя гады — гэта найпрыгажэйшыя і найцікавейшыя ў жыцці. І ці ж можна адрачыся ад гэтых поўных рамантыкі гадоў?

А па-другое, ты ж Колі добра не ведаеш, дык як можаш з некалькіх спатканняў меркаваць аб яго добрым ці дрэнным характары? А Віцю, як відаць з Твайго лісту, не кахаеш. Думаю, Ты, Лена, яшчэ не павінна выходзіць замуж. Яшчэ прыйдзе час, спаткаеш свайго хлапца, у якім закахаешся больш сур'ёзна.

**СЭРЦАЙКА**

## Цудоўна!

**Апошнім часам наша рэдакцыя атрымала тысячы лістаў, у якіх чытачы ўрачыста клянуцца, што 1 красавіка г.г. кожны з іх здабудзе для «Нівы» па некалькі новых падпісчыкаў. Цудоўна! Толькі сумненні выклікае дата: адкуль такая аднадумнасць?**

(рл)

## КІНО

**Праграма на 1—7.IV 1963 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белагежа**
„Zdarzylo się to w Rzymie" (włoski), 2—4. „Jadą goście, jadą" (polski), 5—7.

**Кляшчэлі**
„I ty zostaniesz indianinem" (polski), 2—4. „Jadą goście, jadą" (polski), 5—7.

**Навасады**
„Z soboty na niedzielę" (angl.), 6—7.

**Нараў**
„Sprawcy nieznani" (włoski), 3—7.

**Нараўка**
„Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 3—7.

**Чаромуха**
„Ukryte skarby" (czeski), 2—4. „Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 5—7.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Przeciwnicy" (węgierski), 3—7.

**Бранск**
„Globke biurokrata śmierci" (NRD), 2—4. „Bariera ognia" (radz.), 5—7.

**Гродзіск**
„Tragiczny zamach" (jugosł.), 6—7.

**Орля**
„Noc poślubna" (polski), 3—7.

**Райск**
„Marynarz z Komety" (radz.), 3—7.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Kto sieje wiatr" (USA), 2—4. „Wakacyjne przygody" (radz.), 5—7.

**Міхалова**
„Pan i Astrolog" (polski), 2—4. „Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 5—7.

**Супрасль**
„Skrawek błękitnego nieba" (jugosł.), 2—4. „Ogniomistrz Kaleń" (polski), 5—7.

**Чорна Беластоцкая**
„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 2—3. „Artysta do wszystkiego" (radz.), 4—5. „Król strzelców" (czeski), 6—7.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Prawo morza" (bułg.), 2—4. „Mężczyźni na wyspie" (polski), 5—7.

**Мілейчыцы**
„Gdy drzewa były duże" (radz.), 2—4. „I ty zostaniesz indianinem" (polski), 5—7.

**Нурэц**
„Majowe gwiazdy" (czeski), 2—4. „Ten który wrócił" (radz.), 5—7.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Na scenach świata" (rumuński), 2—4. „Tata, mama, córka i zięć" (radz.), 5—7.

**Сухаволя**
„W. I. Lenin" (radz.), 2—4. „Ożeniłem się z czarownicą" (USA), 5—7.

**Шудзялава**
„Na tropie" (franc.), 3—7.

**Янаў**
„Tajemnica zielonego boru" (radz.), 2—4. „Dwaj panowie N" (polski), 5—7.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 6—7.

**Новы Двор**
„Skok o świcie" (radz.), 6—7.

**Ружаны Сток.**
„Trudne lata" (włoski), 2—3. „Trapez" (USA), 4—5. „Spóźnieni przechodnie" (polski), 6—7.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-10002
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Bltk A-1



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

